Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

11 — 17 СНЕЖНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 7000 РУБЛЁЎ
№50 (190)

## АДНА ЗЯМЛЯ

ВІЛЕЙКА

### Аб'ядналіся. Афіцыйна

Прэзідэнт падпісаў указ аб аб'яднанні Вілейкі і Вілейскага раёна ў адну адміністрацыйна–тэрытарыяльную адзінку – Вілейскі раён (з адміністрацыйным цэнтрам горад Вілейка).

На гэтым тыдні ў гарадскім і раённым выканаўчых камітэтах павінна была распачаць работу ліквідацыйная камісія з вобласці. Усіх работнікаў спачатку звольняць, а потым зноў будуць прымаць на работу ў аб'яднаны выканкам. Але пакуль ціха. Усе, як і раней, выконваюць свае службовыя абавязкі.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

### Школы "інтэрнецяць"

Днямі тры гарадскія школы і аддзел адукацыі атрымалі доступ да сусветнай інфармацыйнай сеткі INTERNET.

Мяркуецца наладжваць супрацоўніцтва з установамі адукацыі па ўсім свеце.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МЯДЗЕЛ

### І ў Мядзеле INTERNET

Цяпер і ў жыхароў Мядзельшчыны ёсць шанец павандраваць у нетрах сусветнага павуціння. Раённы вузел электрасувязі пачаў аказваць паслугі па падключэнні да глабальнай камп'ютэрнай сеткі INTERNET.

Першым скарыстаў такую магчымасць прыватны прадпрымальнік з курортнага пасёлка Нарач.

*Алесь ГЛУБЛЯ.*

ВАЛОЖЫН

### Нашыя варэнікі ў "Еўропе"

Масласырзавод наладзіў выпуск варэнікаў. За кошт гэтага "забіў" адразу двух зайцаў.

Ён забяспечыў валожынцаў смачным паўфабрыкатам, а калектыў сыродзха на час зімовага сезона – работай. Варэнікі прадаюцца ў Валожыне і сталічных магазінах аб'яднання "міні–Еўропа".

Магчыма, у хуткім часе іх будуць смакаваць і на Украіне.

*Таццяна АЛЯКСЕЕВА.*

ВІЛЕЙКА

### Дзеці пойдуць у рэстаран

Мясцовае аддзяленне дзіцячага фонду распачало акцыю "Наша сэрца хворым дзецям".

Праведзены ранішнік для дзяцей–інвалідаў. Для іх жа напярэдадзе перадНавагодні ранішнік у рэстаране "Вілія". Старшыня раённага аддзялення фонду **Мікалай Гіро** запланаваў шмат добрых спраў.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

ВАЛОЖЫН

### Адзіныя ў вобласці

12 бацькоў, чые дзеці ходзяць у дзіцячы садок №3, СШ №1, гімназію і займаюцца па праграме Беларускага фонду адукацыйных ініцыятыў "Крок за крокам", узялі ўдзел у семінары–трэнінгу, што прайшоў у сталіцы. Сутнасць праграмы – навучанне дзіцяці праз яго жаданне. Так у вобласці займаюцца толькі валожынскія навучальныя ўстановы.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ІВЯНЕЦ

### Няма такога слова

Не ўжываюць слова "інвалід" у дзіцячым доме–інтэрнаце, хоць вучацца там 180 дзетак з цэрэбральным паралічом. Дзякуючы энергіі дырэктара ўстановы, заслужанага работніка сацыяльнай абароны Беларусі **Фёдара Гольдшміта**, тут усё робіцца для рэабілітацыі і вяртання да паўнацэннага жыцця хворых хлопчыкаў і дзяўчынак.

Нядаўна тут пабудаваны салярый для зімовага загару, кабінет псіхалагічнай разгрузкі, на чатыры пакоі пабольшала экспазіцыя інтэрнатаўскага музея.

*Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.*



КРЫМІНАЛ

## "Яшму" абчысцілі на 1,5 мільярда

*МАЛАДЗЕЧНА. Тыдзень таму (у чацвер, каля 17 гадзін) двое злачынцаў зайшлі ў магазін "Яшма", што па Вялікім Гасцінцы. На галавах у іх былі чорныя панчохі. Адзін трымаў у руцэ пісталет (сапраўдны ці муляж – невядома). У гандлёвай зале на той час пакупнікоў не было.*

Напалоханым прадаўцам загадалі не рухацца. Разбілі вітрыну, упрыгожванні склалі ў поліэтыленавы пакет. Адных толькі залатых пярсцёнкаў прыхапілі каля 100 штук.

Злачынцы прабылі ў магазіне ад 5 да 10 хвілін. Пасля нападу зніклі ў пад'ездзе жылога дома. А падчас "аперацыі" прадбачліва вывесілі на дзвярах шыльдачку "перападлік". Такой нахабнасці і дзёрзкасці не памятаюць нават следчыя з вялікім стажам.

*Пасля здарэння мы паспрабавалі адказаць на некаторыя з пытанняў.*

**Чаму падчас нападу ў магазіне не было пакупнікоў?**

Хутчэй за ўсё, адзін са злачынцаў за некалькі хвілін да нападу без маскі зайшоў у магазін падлічыць колькасць наведвальнікаў. Адразу ж на дзвярах была вывешаная шыльда "парападлік". Тым самым перакрылі ўваход. А злачынцы стаялі недалёка і лічылі тых, хто выходзіў. Што ж робіцца ў магазіне, з вуліцы не відаць – дзверы двайныя, драўляныя.

**Чаму не спрацавала сігналізацыя?**

Такія магазіны, як "Яшма", маюць "трывожныя" кнопкі, замацаваныя ў гандлёвай зале. Калі кнопку націснуць, у аддзеле аховы гучыць сігнал і міліцыя неадкладна выязджае на месца. Таксама гэты ж сігнал аўтаматычна запісваецца ў аддзеле аховы на магнітафон. Прадаўцы сцвярджаюць, што націскалі на "трывожную" кнопку. Аднак сігнал не прагучаў, і на магнітафоннай стужцы яго няма. А напярэдадні свядома кнопку правяралі, і міліцыя прымчалася імгненна. Магчыма, нехта, хто вольна можа перамяшчацца па магазіне, кнопку загадзя вывеў са строю.

Нагадаю, злачынцы надта ўжо не спяшаліся.

**Злачынцы – прафесіяналы ці аматары?**

Хутчэй за ўсё, аматары. Час для нападу быў выбраны неспрыяльны (гараджане вярталіся з работы), тэлефонныя правады не перарэзалі. А так забяспечылі б сабе яшчэ некалькі хвілін, пакуль прадаўцы бегалі тэлефанаваць у стаматалогію, што па суседстве.

**Ці можна будзе вылічыць злачынцаў па рэалізацыі імі нарабаванага?**

Наўрад ці. Хутчэй за ўсё, напад на "Яшму" заказны. Упрыгожванні рэалізоўваць у рэспубліцы вельмі рызыкоўна. Лічу, што нашы кольцы, пярсцёнкі ў хуткім часе з'явяцца ў прыватных ювелірных крамах Польшчы ці Германіі.

Работнікі крымінальнага вышуку прапрацоўваюць некалькі варыянтаў. Работнікі магазіна гавораць, што злачынцам дзесьці па 18–20 гадоў. Аднак жанчыны былі ў шоку, дый па целасkладзе і так цяжка вызначыць узрост.

Маладзечанская міліцыя звярнулася да грамадзян, якія 3 снежня з 16–30 да 17–30 знаходзіліся паблізу месца здарэння і, магчыма, запомнілі тых, хто выходзіў з магазіна, заходзіў у яго ці перашкаджаў уваходзіць, з просьбай патэлефанаваць. Гарантуецца ананімнасць. А тым гараджанам, якія дапамогуць у раскрыцці злачынства, будзе выдадзеная ўзнагарода. Таксама аддзел нагадвае: па крымінальным заканадаўстве, той, хто мае дачыненне да здзейсненага і сам звернецца ў міліцыю, будзе мець змякчальны віну акалічнасці пры вынясенні прыгавору.

*Васіль САВІЦКІ.*

СЕКТАР СПОРТУ

### Дзяўчаты лепшыя за хлопцаў

СМАРГОНЬ. 4-6 снежня тут прайшоў фінал першынства рэспублікі для юных баскетбалістаў 1986-87 г. н., па крыху спрошчаных правілах.

Мясцовыя хлопцы (трэнер - **Сяргей Дурэйка**) ва ўпартай барацьбе саступілі сталічным "Аўтазаводцу" і СДЮШАР-10, але без праблем перайгралі магілёўчан. Занялі трэцяе месца.

Дзяўчаты (трэнер - **Жанна Грэхава**) былі мацней і за сапернiц з Калінкавіч, і з Бабруйска, і з той самай СДЮШАР-10. Сталі чэмпіёнкамі краіны.

Адзначым **Сяргея Кандрацэнку, Аляксандра Шышкова, Таццяну Навічук, Юлію Дурэйку.**

### Мядзел - якасць, Свір - колькасць

МЯДЗЕЛ. На базе СШ №1 і №2 праходзіў чэмпіянат раёна па баскетболе. Удзельнічалі восем калектываў.

Фінал за 3 месца калгаснікі са Свіра выйгралі ў каманды птушкафабрыкі з лікам 47:18. Чэмпіёнамі сталі прадстаўнікі РВП ЖКГ "Мядзел", якія ва ўпартай барацьбе адолелі пасялкоўцаў са Свіра 38:37.

Лепшымі гульцамі прызнаныя **Генадзь Гунько** (РВП ЖКГ "Мядзел") і **Часлаў Гавейка** (Свір).

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

### Прыйшлі бранхіты

*МАЛАДЗЕЧНА. За першы тыдзень снежня сярод жыхароў горада і раёна зарэгістраваныя адзінкавыя выпадкі ВГА (жаўтухі). Колькасць хворых вострымі кішэчнымі інфекцыямі знізілася, за тыдзень зарэгістравана 12 выпадкаў. Яны раззрошаныя, не звязаныя паміж сабой.*

Актывізаваўся эпідэміялагічны працэс па заразных скураных захворваннях. Зарэгістравана 4 выпадкі каросты сярод школьнікаў, 7 выпадкаў мікраспарыі сярод дашкольнікаў, школьнікаў і дарослых.

Адзначыўся пад'ём захворваемасці вострымі рэспіраторнымі інфекцыямі. У параўнанні з апошнім тыднем лістапада, захворваемасць узрасла на 161 выпадак і склала за 7 дзён снежня 1095 выпадкаў.

Вострыя рэспіраторныя захворванні багатыя на ўскладненні, часцей за ўсё яны пераходзяць у бранхіты і пнеўманіі. Вось чаму важна захоўваць у выпадку іх рэгістрацыі пасцельны рэжым і выконваць усе назначэнні ўрача.

Па–ранейшым на высокіх лічбах рэгіструецца педыкулёз, за тыдзень выяўлена 18 асоб.

Даследаваныя ўзоры прадукцыі і вады адпавядалі патрабаванням.

***Людміла ЕРМАЧЭНКА**, загадчыца эпідаддзела Маладзечанскага РЦГіЭ.*

ДВА ПЫТАННІ НА АДНУ ТЭМУ

# "Вяснянка" запазычылася па–буйным

***МАЛАДЗЕЧНА. Жыхары дамоў №№ 1, 3, 5 па вуліцы Драздовіча паскардзіліся ў "РГ", што наведвальнікі віна–гарэлачнага магазіна "Вяснянка", які працуе паблізу, часцяком заходзяць у пад'езды "пасядзець". Як вынік – забруджаныя лесвічныя клеткі, устойлівы пах экскрэментаў. Гараджане прапанавалі, каб "Вяснянка" пад'езды адрамантавала ці дамафоны ў іх паставіла. "Ці туалет пабудуйце побач з магазінам, – звяртаюцца кватэранаймальнікі да фірмы. – Вы на чужым горы мільярды зарабілі і даўно запазычыліся нам па–буйным".***

Дырэктар дзяржаўнага прадпрыемства "Вяснянка" **Юрый Андрыянаў:**

– Да праблемы, узнятай жыхарамі, стаўлюся з разуменнем, аднак сваёй віны не бачу. Справа ў агульначалавечай культуры. Прыкладам, адкрыем магазін у полі, і ўсё адно, лічу, будуць нейкія скаргі. Штомесяц мы плацім муніцыпальны падатак каля 100 мільёнаў. Грошы павінны ісці на добраўпарадкаванне горада. Не выключаю магчымасці будаўніцтва на іх і грамадскага туалета.

У нас 8 магазінаў. Мы імкнемся не дастаўляць гараджанам турбот. За свой кошт здымаем многія пытанні. Па вуліцы "17 верасня" набылі і паставілі 2 бетонныя пліты паміж магазінам і жылым домам. Закрылі ход у двары.

А што нас папракаюць мільярдамі, быццам бы заробленымі на чужым горы, – гэта не зусім так. Па–першае, прадпрыемства дзяржаўнае, па–другое, увесь наш тавар айчынны, сертыфікаваны. Гарантыя, што чалавек не атруціцца. Ну, а хто і ў якой колькасці ўжывае алкаголь, – іншая справа.

У "РГ" патэлефанавала раз'юшаная жыхарка: няўжо пад Новы год не змагу набыць танную бутэльку шампанскага? Гэтае пытанне таксама адрасуем **Юрыю Андрыянаву**.

– Паўтара месяца таму мы набылі шампанскае, але выканком папрасіў пакінуць яго да свята. Нягледзячы на сённяшнія цэны, паўсухое шампанскае "Москва Златоглавая" пойдзе ў продаж па 250–300 тысяч. Шампанскае на Новы год – гэта даніна добрай традыцыі. Аднак не цурайцеся на святы купляць віны. Для тых, хто не ведае, – так званае ў народзе "чарніла" робяць з натуральных фруктаў, ягад. Мае знаёмыя "Беларускую восень" зліваюць у графін і падаюць на стол як самаробнае віно. І гаспадары, і госці п'юць з задавальненнем.

***Васіль САВІЦКІ.***

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 2.12 | 9.12 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 250 | 260 |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | – | – |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 185 | – |
| Селядзец | 1 кг | 210–250 | 260 |
| Рыс | 1 кг | 130 | 135 |
| Цукар | 1 кг | – | – |
| Грэчка | 1 кг | 110 | 110 |
| Алей | 1 л | 230 | 230 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | – |
| Маянэз | 250 г | 59 | 62 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 290 | 290 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 90 | 90 |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 75 | 75 |
| Лімоны | 1кг | – | 250–275 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 150 | 150 |
| Масла | 1 кг | 340 | 350 |
| Тварог | 1 кг | 70 | 70–100 |
| Малако | 1,5 л | 30 | 30 |
| Бульба | 1 вядро | 60 (мал.) | 70 (мал.) |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | 150 |

КРУГЛЫ СТОЛ

# Кожны грамадзянін Беларусі павінен хадзіць у тэатр

***МАЛАДЗЕЧНА. У Мінскім абласным драмтэатры за "круглым сталом" прадстаўнічая публіка абмяркоўвала, як далучыць людзей да тэатра. Дырэктар аблдрамтэатра Сяргей Валькевіч гаворыць, што назіраецца тэндэнцыя да зніжэння колькасці гледачоў. Зала на 150 месцаў запаўняецца на 60%. Ён прасіў:***

– Дапамажыце разабрацца ў сітуацыі, дайце больш крытыкі ў наш адрас.



*Атмасфера «круглага стола» творчасці не спрыяла. Нават парады загадчыцы аддзела культуры некаторыя ўспрымалі з пункту гледжання «хутчэй бы пайсці дадому».*

На жаль, грунтоўнай размовы не атрымалася. Можа, напалохала сама тэма, надта палітызаваная: "Выхаванне грамадзяніна незалежнай рэспублікі Беларусь".

Былі толькі дзве канструктыўныя парады. Загадчыца аддзела культуры гарвыканкома **Надзея Сідарэнка** прапанавала праводзіць у тэатры дні навучальных устаноў. І не абмяжоўвацца спектаклямі. Таксама сустракацца з творчым калектывам.

Дарэчы, галоўны рэжысёр тэатра **Мікалай Мацкевіч** нагадаў замежны досвед: пасля спектакля і гледачы, і акцёры ідуць у бар для размовы ў неафіцыйнай абстаноўцы.

**Сяргей Валькевіч** прапанаваў пры наяўнасці ў горадзе сродкаў адкрыць тэатральныя студыі ў школах. Дзе выкладчыкамі былі б прафесійныя акцёры.

Узніклі пытанні і па рэпертуары. Намеснік старшыні мясцовага гарвыканкома **Данута Жук** шчыра сказала, што не ўсе пастаноўкі глядзела. Тым не менш:

– Ці тое тэатр паказвае? Спектаклі па школьнай праграме былі б больш карысныя.

Яе падтрымала арганізатар ПТВ–135 **Валянціна Вязгіна**. Маўляў, няхай тэатр ідзе да нас, у навучальныя ўстановы, з вучэбнай праграмай.

У адказ прагучаў тэзіс пра тое, што гэты шлях тупіковы.



ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

Тэатр стане абслугоўваючым персаналам. Трэба, каб моладзь сама даходзіла да пэўнага мастацкага ўзроўню.

Вось амаль што і ўся 2–гадзінная размова. Прадстаўнікі адміністрацыі навучальных устаноў (а іх была пераважная большасць) не змаглі зрабіць яе карыснай.

Абласное ўпраўленне культуры прадстаўляў **Аляксандр Пятровіч**. Па яго словах, адна з праблемаў – пошук рэпертуара. Сучасныя масцітыя драматургі працуюць на сталіцу. Тым не менш, Маладзечна павінна мець на перспектыву канкрэтныя п'есы. Прапрацоўваецца варыянт з музычнымі спектаклямі, удзелам "зорак" беларускай драмы ў монапастаноўках.

Маладзечна – гэта таксама цэнтр тэатральнага жыцця. На вядомую "Сакавіцу" Сяргей Валькевіч адключае тэлефон: "мяне няма". Бо ўсім трэба лішні білецік. Вось бы так і на працягу тэатральнага сезона.

***Васіль САВІЦКІ.***

АРМІЯ

# Гінуць вайскоўцы

ВАЛОЖЫН. Тут створаны раённы камітэт салдацкіх маці. 18 жыхароў раёна загінулі ў арміі ў мірны час. Такая сумная статыстыка прыводзілася падчас сустрэчы з маці, якія атрымалі пахаванкі ў наш час.

Вялі яе ваенны камісар раёна **Сяргей Глябовіч** і супрацоўнік райваенкамата **Аляксандр Савіцкі**.

Старшынёй абралі **Францішку Лапуцкую** з Івянца, намеснікам – **Яніну Падрэз** (яе сын загінуў у Афганістане) з вёскі Зарэчная Багданаўскага сельсавета.

***Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.***

СПАРТЫЎНЫ СЕКТАР

# Спартыўную залу ў падарунак

ВІЛЕЙКА. На сваё 10–годдзе падлеткавы клуб "Дзяржынец" атрымаў ад улады ў падарунак спартыўную залу.

Раней зала, якая знаходзіцца ў інтэрнаце завода "Зеніт", пуставала. "Дзяржынцы" займаліся каратэ–до ў падвале.

***Марына ТАЧЫНСКАЯ.***

# Віно не вытрымлівала

МАЛАДЗЕЧНА. Павільёны МП «Дэльта», ФСК «Агеньчык» на мінулым тыдні часта былі зачыненыя – замярзалі не толькі прадаўцы, але і бутэлькі. З півам – ад марозу лопаліся, віно – «проста» замярзала.

Маразы мінулі. Рыхтуйцеся, гандляры, да наступных?

***Вольга СУБАЧ.***

# "Юнацтва" для юных

ВАЛОЖЫН. Кожную нядзелю, у дні канікул і на святы ў кінатэатры "Юнацтва" праходзяць кінамерапрыемствы.

За 15 тысяч рублёў з 14 да 18 гадзін дзеці могуць пагуляць у камп'ютэрныя гульні, паглядзець мультфільмы, патанчыць на дыскатэцы, паўдзельнічаць у конкурсах.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

# Эканомія ў 30% пенсіі

ВАЛОЖЫН. Па 5 сацыяльных ложкаў адкрыта на базе Пяршайскай, Ракаўскай, Вішнеўскай участковых бальніц.

Старыя нямоглыя людзі за 70 % сваёй пенсіі жывуць пры бальніцах і не пакутуюць ад холаду і адсутнасці ежы.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

З НАРОДНАГА

# Пры наяўнасці свінні

Марознае надвор'е, што ўладкавалася гэтымі днямі, спрыяе масаваму забою свіней. На днях давялося паўдзельнічаць у такім мерапрыемстве.

Калі сталі разбіраць вантробы, сваяк успомніў, як дзед вучыў яго прадказваць, якая будзе зіма, па свіной касе (селязёнцы). Даўжыня касы прадказвае працягласць зімы, шырыня – тэмпературу паветра: шырокая – маразы, вузкая – адліга. У нашым выпадку каса аказалася шырокая і доўгая, значыць, і зіма будзе марозная і працяглая.

Яшчэ сваяк успомніў, што свіную касу аддавалі маладым дзяўчатам, каб у іх раслі густыя і доўгія валасы. А вось мужчынам есці яе забаранялася, бо ў час касавіцы той, хто пачаставаўся, абавязкова б зламаў касу, а каштавала яна тады немалыя грошы.

Той, хто не верыць у народныя прыкметы, мае добрую магчымасць праверыць іх. Вядома, пры наяўнасці свінні.

***Ігар КІЦКАЎ,***
***Вілейка.***

НАШЫ Ў СВЕЦЕ

# Успамін пра заработкі ў Ізраілі

На святой зямлі адразу ўражвае ўсходняя архітэктура, закругленыя формы, мяккія і плаўныя лініі, незвычайныя краявіды, сучасныя будынкі з металу і шкла, абкружаныя зялёнымі насаджэннямі. А праз колькі кіламетраў – камяністая пустыня з палаткамі арабаў, каля якіх стаяць вярблюды і джыпы. На здзіўленне мала выхадцаў з еўрапейскай часткі былога Савецкага Саюза, бо Ізраіль у іх – як прамежкавая база перад Германіяй і Злучанымі Штатамі. Шмат выхадцаў з Сярэдняй Азіі і іншых гарачых кропак.

Работы шмат. Беларусаў і ўкраінцаў прымаюць ахвотна. А вось арабам калі і даюць магчымасць працаваць, дык толькі там, дзе адмаўляюцца іншыя.

Нашы, у асноўным, працуюць на будоўлях, таму не здзіўляйцеся, калі дзе–небудзь пад Вілейкай праз колькі год з'явяцца катэджы ва ўсходнім стылі.

За дзень (10–гадзінны) можна зарабіць 120 шэкеляў (1$ = 3,9–4 шэкеля). У нядзелю – абавязковы выхадны. Калі асабліва не эканоміць, але і не шыкаваць, дык на жыццё хапае $100–150 у месяц. Гэта значыць, "чыстымі" можна адкласці $600–700.

Вось цэны на некаторыя асноўныя прадукты. Бульба на рынку каштуе 1,5 шэкеля за 1 кілаграм, у магазіне – да 10 шэкеляў, але тут яна ўжо чыста вымытая і ўся роўная, як більярдныя шары. Хлеб 2–2,5 шэкеля, але булкі большыя, чым у нас. Мяса, у асноўным, ялавічына і курацiна (свініну можна знайсці толькі ў вялікіх гарадах) каштуе ад 12 шэкеляў за 1 кілаграм (проста кавалак мяса) да 30 шэкеляў (разрэзанае, як вам патрэбна, ці нават адбітае). Літр самай таннай гарэлкі з рускамоўнымі назвамі: "Александров", "Русская" і г. д. – 12 шэкеляў.

Для тых, хто збіраецца ў Ізраіль надоўга. Там шмат жанчын лёгкіх паводзін; сустракаюцца і нашы, але больш негрыцянак і выхадцаў з лацінаамерыканскіх краін. Іх паслугі каштуюць ад $30 за гадзіну.

***Запісаў Ігар КІЦКАЎ.***

